*Мой дом у вежы на высьпе,*
*мяне чакае бясконцы шлях*
*вады з вытокаў ракі.*

*Фэлікс Аксёнцаў*



## выспаведзь

выслухаць споведзь выспы да першай кроплі
вытрываць недарэчнасьць дарогі ў змрок
выгартаць вастралістыя бы каноплі
веды
пераключыцца на аджня-зрок
скрасьці ў ракі празрыстую жыцьцяроўнядзь
вецер на недакрылых адчуць руках
утаймавацца тоймамі і ня ўспомніць
назву таго што зьнішчыла сьмерцястрах
вызнаць за міг як поўнач глядзіць у твар і
як самацьвет самоты расьце ў грудзях
моўч разьдзяліць з адтулінаю міжхмар'я
ціха ўцячы ў адгэтуліну быцьця



## выспадарожжа

я сам сабе хмаравокі маўчар-правадыр
у мейсцы дзе высьпяваюць загадак згадкі
усе дарогі на высьпе вядуць да вады
канец паўкола вяртае мяне да пачатку
я сам сабе веснавокі маўчар-земляроб
ральлю дажджу адмыкаю – ўлюбёнец дажбожы –
кладуся дзелівам мовы ў маланкавы дроб
дзялю сябе на сусьвет і на выспадарожжа



## выспаходня

вабіць вечным спакоем сатканае ветрам радно
на паверхні ракі выступаюць мінулага здані
тонкабронзавай луньніцай плаўна кладуцца на дно
сны пра суіснаваньне ў вясьне
сны пра сувеснаваньне
непад’ёмная памяць утойвае сэнс выспадзей
невагомая сочыцца ўтома ў падземныя нетры
выспаходняю сонца шугае па цёмнай вадзе
час разрэджваецца і зьнікае ў халодным паветры



## выспакой

зерне цішы не ператворыцца ва ўмалот
мы дагэтуль на розных мовах з Табой маўчым
супадзеньні не напрарочаць нам суўзыход
выспатканьні не абяцаюць нам выспачын
наступ хваляў на жвір ня зрушыць каменьня цьвердзь
мы дагэтуль па розных колах з Табой ідзем
я ня помню чым ёсьць пакуты
спалох і сьмерць
але ведаю што хавае ад нас пазем
шэрань места нашую сувязь не праглыне
мы дагэтуль праз слова лучаныя з Табой
Ты зь нябёсаў глядзіш на выспу і на мяне
я загортваюся ў Твой позірк і ў выспакой



## выспаверх

падсьціл лясны ўзарваны кратавінай
разгладжаная берагу кайма
няма недаравальнае правіны
і раны незагойнае няма
ні богам не агледжанае глебы
ні д'яблам разамкнутае душы

мне тут ня жыць бязь вечнай выспатрэбы
мне госьцяй быць у гучнай плынь-глушы
маўленьне і дыханьне ў часазломе
ахвяраваць таму хто сьмерць абверг
і знаць што калісь у захмарным доме
ключар мяне ўзьвядзе на выспаверх



## выспакушэньне

па-над выспай бягуць ганчакі па нябеснай пожні
да вялікага воза вядзе двух валоў валапас
я заўжды абяцаю сабе
гэты раз – апошні
ды прыцягвае зноў дасканалы дасконны штораз
ды працягвае зваць неадольнае спакушэньне
зьлішпяшчоту
зьлішпамяць
усю адбалелую зьліш
птахам ночы скарміць быццам крошкі з пустых кішэняў
глебе ночы аддаць каб атожылкі сьпелі заміж
дзённай стомы на высьпе птушынай
каб вершазавязь
незаўважна мацнела на дрэвах пад зорным сьвятлом
што ліе вадаліў праз галінаў густую навісь
на драўляныя сьцегапаломы і ў сэрцапалом
мне ня высьніць спакой безь цябе
мне начэй ня выспаць
мне чуваць перасьпевы жыцьця ў маладым трысьці
гэта я спакушаю найлепшую ў сьвеце выспу
непаўторным сусьветам із слоў ува мне прарасьці



## выспазьненьне

калыхлівы хвалеў на бродзе зьнікае зрэдзь
хцівы вецер з вадой гуляе ў замры-плыві
я спазьнілася на стагодзьдзі
на мовы сьмерць
на яе адраджэньне ў нечай густой крыві
я спазьнілася
мой выспане
на ўсё жыцьцё
перавітае сном прасякнутае жальбой
амяцежаная сустрэчай і забыцьцём
у замосьце зьбягаю зьвершаная табой
я спазьнілася на імгненьне
і што рабіць
цьвержы дрэваў мне цьвердзяць – вырашыцца само
і кладзецца адказ вузельчыкамі на ніць –
помняць вецер з вадой вяроўчатае пісьмо



## выспамінальнае

памінальнікі цягнуцца на клады
я цягнуся да сьціпласьці сон-берагоў
для мяне пачалося жыцьцё з вады
і са слова тае што сышла да багоў
я ня помню што значыць дачкою быць
успаміны сьцер час аднаго акрамя
як да слыху душы бы вада бруіць
яе голасам вымаўленае імя
і маўчаць берагі
і вада пяе
выспаміны вызвоньваюцца ў пустаплаў
і я маю імя
не маё –
яе
ды ня маю таго хто б мяне назваў



## выспатканьне

я стаю над схмаранай мелізной толькі дна цяпер не відно
замірае сшэраная трава ў прадчуваньні гневу залевы
выспатканьне зладжанае вясной – выспатканае палатно
ніт яе рукі й яго рукава – над пратокай судотык дрэваў
двух драўляных целаў гарачы змык разамкнецца ветрам ізноў
дакрануся моўчкі да стогн-кары – супакою іх на хвіліну
пераліў вады
часу недалік
ды нявызнаная любоў
веляболем высьпеюць унутры што узмоцніць мяне ды згіне
мне карункі еднасьці над вадой бы дакорлівы напамін
нашаптацца ўдосталь бы з тым гальлём
каб ня мысьліць болей аб тлене
працінаюць неба яны маной
– я навек адна
– я адзін
пад зямлёю дыхае жарсьць-жыцьцём пераплеценае карэньне



## выспаролі

была ты адзінай сьвятой і выгнаньніцай з раю
сусьветаямніцай што сьпіць у расколіне дрэва
рачніцай самотнай што промні ў валосьсе ўплятае
і ветрам што промнепляценьне спыняе павевам
у ткальні жыцьця судзяніцай была ты раз-пораз
чый нораў няўцямны шмат душаў людзкіх абяздоліў
але безыменны
бясслоўны
бясьценевы
вобраз
запомніцца птушкам галоўнай тваёй выспароляй

ты вернесься зноў ні сьвятой ні выгнаньніцай з раю
сусьветаямніцы будзіць у расколінах дрэваў
і мост-вартаўнік закаваны цябе прывітае
чакаючы Слова й ня маючы велеспадзеву
ты зьдзівіш яго пасьміхнуўшыся яркай Кол-зорцы
самотнай рачніцы
вадзе
ды забытаму болю
і вымавіш бы судзяніца імя словатворцы
якому навек быць адзіным тваім выспаролем



## выспавалока

у халоднай душы пятлістай ракі няма на нудлівасьць упынку
не данесьці ёй хваляў гулкіх сваіх у яр дзе растуць вежавіцы
у падводных галінах ніцай вярбы заблыталася аблачынка
парушынкаю неба ў люстры зямлі адбітак яе мітусіцца
непрыкметна танчэюць цені стваловў – мой час красамоўна танчэе
і птушынага пошчаку не чуваць бязрэшшам маўчыць межытока
як ключы ад замкоў і поўні манэт даўно не разгледзець пад глеем
так і думкі мае пра выгбы жыцьця ня вызнаць за выспавалокай
хай абдыме нявер’е чорным крылом – не адчуць мне яго абдоймаў
хай страшэнная пройма сьвет мой пратне да самай падводнай галіны
ад нязможанай прагі руху й быцьця я буду ўзьнімацца стойма
супыняць непакой пятлістай ракі ды вечнасьць зьнявольваць хвілінай



## выспаслушніца

асіна ганарыцца першынством
у згубе лісьця
моцны дуб застыг
і сьпяць бярозы сплёўшыся гальлём
праз зрыўкі хваль празрысты звадзянік
заваблівае ў чорны звадаём
я дбайнай выспаслушніцай іду
ратуючы ядвабны выспамін
пра цела што выштурхвае ваду
з вады
пра клін што выбівае клін
пра непаўторных стрэлаў чараду
пры стрэчы выспадсьвету ды імгі
пры ростані адчаю і душы
уведаюць сьляпыя берагі
што зроенымі зорамі з вышынь
глядзяць тысячавокія багі



## напаўненьне

паўночнай дарогай дайду надаўгад
да зморшчанай выдмы пярэспы
узрушыць счарнелую гладзь зораспад
абудзіць душу зоранеспад
пясчанай дарогай да зруху дайду
да ветрам зламанага дрэва
глядзецьму на боскае люстра – ваду –
і чуцьму хвалебны разьвеву
птушынай дарогай што срэбраным швом
пратне акіян і нябёсы
дайду да таго хто пусты жыцьцяём
напоўніць настоеным лёсам

## супрацьстаяньне

дух паўночны табе адзінотай аддзячыў
тут расталі даўно каго-кольвек сьляды
ды у тым каб таліцца напоем нястачы
на самоце няма аніякай бяды
сам сабе гаспадар ды паслужлівы лёкай
ты празь непагадзь к мору дарогу праклаў
ды ў адвечным бязмор'і радзімы далёкай
мы да Бога хутчэй дабіраемся ўплаў
ты на ўласныя вочы пабачыў мясьціны
дзе над жэглішчам век не ўзьнімаўся агонь
ды ажыўлены памяцьцю дотык адзіны
невыносным цяплом апякае далонь
у захмар'е загнаў прамяні вецер-збродзень
халадэча такая што дух заняло
ды зярнятка заўжды будзе мкнуцца на поўдзень
тым канцом ізь якога праб'ецца сьцябло



## узводзіны

там дзе глядзіцца сінь-неба ў блакіт-ваду
дзе чалавечы схоў робіцца богаяўным
скончыцца доўгі рух – жрыцай туды дайду
мніўны сусьветаў сплаў пералію ў сапраўдны
ўбачу усемяжу
выстыне ў жылах кроў
толькі ў прадмежжы тым моўчы мне не збаяцца
хваляў дрыготкіх вязь
глінапіс берагоў
счытваць мяне вучыў божнік і пуцяпраўца
ў вонкавы сьвет зь мяне вырвецца найлюбоў
вымаўлю славень я ўсэрца
удух
уголас
і па прыступках сну з барвы адзін з братоў
госьцяй мяне ўзьвядзе ў колаваротны поваз



## сустрэча

наросьцеж маўчацьмем
стаміўшыся ўслых гібець
над множнікам неба
на крохкім украі кручы
увесну пра наквець
увосень пра пераквець
ды колы трымацьмем
ты – рэшата
я – абручык
счарнеламу сьценю
ды выбеленай бядзе
замкоў не зламаць
між намі наўсьцяж ня легчы
мне сьлёзы з падвочча
сцалуе ўладар надзей
іголачку фібулы
кінуўшы ў вір сустрэчы



# супын

за дзесяць няроўных крокаў да зродненых неба й вады
на зрошаным траўі палітым дажджамі й сухой сьлязою
мяне супыняе сонца – па сьвеце ўсіх правадыр –
празорлівым промнем грэе
і я скрозь надчасьсе мрою
як нехта павольна водзіць рукой па ячменным асьці
і мне застаецца ўспомніць найлепшай парады сьцісласьць –
знайсьці незамкнёнае кола
церазь яго прайсьці й
малочна-блакітным прасьцягам працяг пуцявіны выслаць



## шматкроп’е

у чайкавым аддаленьні
у крыку яе жальлівым
як дым растаюць абрысы і гукі імя таго
хто верыць вучыў калісьці
залевам
зары й
залівам
трывога трыма камянямі зь пярэспай гуляе ў го
ізноў прайграе ды ў мора хаваецца нетаропка
далонь забывае дотык
пясок забывае сьлед
і мара шукае бераг дзе можна паставіць кропку
і марна спрабуе зьнікнуць праз выпрастаны прасьвет
захмарны ўладар маланак рыхтуе навершы коп’яў
чакае душа навальніцу
ды прагне абвеву плоць
і будучыня трохвока глядзіць на цябе шматкроп’ем
якое ня зрушыць зь мейсца
ня сьцерці
не раскалоць



## народзіны

іду
хадой саслабелаю
за адольцамі ночы
няпорсткімі крокамі
па асклізлых усходах
у горадзе сьненьня і
ў залюстроўі завочча
вада разьліваецца
нешумлівай адгодай
за доўгатрываньне цьмы
і за холад нястрэчы
за глыб і відушчага
абыякавы позірк
за розьненьне з доляю
дагарэлага сьвечча
за поступ нязьменлівы
па абранай дарозе
у дым'і я дыхаю
ветрам куршабярэжным
і мора нагадвае
праглынаючы смутак
як я нараджаюся
на заходнім памежжы
і ў цёплых руках яе
сплю спавітая ў скрутак



## паветраварот

вада-жыцьцядаўца б’ецца аб берагі
пазем’ем танчэе шчасьця ды неба стык
і быццам із спрату згорнутага ў сьнягі
з халоднай пярэспы нехта маўчыць наўскрык
вятры нашы беды дзеляць паміж сабой
пад кроівам крыльля горад страчае ноч
і быццам з варонкі вуха зямлі глухой
з паветравароту ўверх я крычу наўмоўч



## адкрыцьцё

тут галасамі дзіўнымі на мове старадаўняй
тваё імя нашэптвае трава адгонцам дрэў
і сонца спавядаецца мячэўнікавым плаўням
за мора сьпеў аброчніка сплывае штопавеў
стаяцьмеш у давечнасьці забыўшыся ў гадзінах
завіўшыся ў галяктыку ў палоне дажыцьця
із процьмы боскіх нарачных абраньнікам адзіным
цябе пакліча ў марыва навышняя ладзьдзя
калі ж пярэспу крэўную спаўе прадсоньне сьценем
адчуеш як па ўсёй душы насякнутай тугой
даверлівае ворыва прымае спад насеньня
падатлівае волава ліецца у прыпой



# гуканьне

дзе вы
дажджы
што ў вечнасьці ліяце
дзе ты
паўночны вецер зь пярэспы вузкай
выклясьці б хмары што родны падцялі цень –
выклятае захмар'е счарнее пусткай
ўпарта б ісьці туды дзе стаіць трысьцень
(туліцца да жытла пад утульнай глоўняй)
ў прадзіва словаў сьцелісты хутаць дзень
вогкія сны вычытваць ізь зьзяні поўні
час на сьцяне пагойдвае свой кісьцень
зоры не запаліліся па заходзе
выклясьці б хмары што родны падцялі цень –
толькі навошта цені ў нямым бязводзьдзі



## Эргасум

Стаўшы сьцена- ды крэслазнаўцай, нічыйнай мілкай,
выспасьцігшы за год геамэтрыю кол-калідора,
я ня выйшла з пакоя – выбегла і памылкай
перарэзала сшытасьць мяцежнага часу з прасторай,
надмяжоўем вады і дрэва зьлілася зь мерай –
чалавекам, што бачыў дубцы ў залатаных крыжах і
гэтаксама глядзеў на плынь ды жывіў паперу,
выкрываючы ўцеклыя зь люстраў палацавых жахі.
Захацелася ўраз ня дыхаць, згубіць адзежу
і каменнаю рыбаю скочыць у вадкае неба,
ды руплівае і рыплівае выспамежжа
нагадала аб тым, што вадзе камяні без патрэбы.
У затоцы адбіўся скрыўлены час, што зьвёў нас.
Я пакінула голас ахвярай сталічнаму тлуму
і вярнулася ў задзьвярымную бессэнсоўнасьць,
абцяжараная і адораная эргасумам.



# Утома

Я ня тое каб вар'яцею – ад утомы зімовай млосна.
Неўзабаве прыму бяздом'е – выспу людзьдзем затопіць лета.
Ўратаваў бы ад шалу нехта нешматслоўны й сусьветаносны,
ды расчуць бы ў сваім маўчаньні, што рабіць са сваім сусьветам.
Я чытаю чужую кнігу, забясьпечваючы бясьпеку
рэшткам года, і марам сына, і паловы сябе сыходу.
Я засвойваю ў слове бездань паміж птахам і чалавекам,
у часьціне забытай мовы – таямніцы быцьця.
Свабода –
гэта час, калі забываеш.
Сьвет наўкольны брыняе Богам.
Прабівае цьвярдыню лісьце. Да вар'яцтва яшчэ далёка.
Цьмяна, ціха.
Ды цісьне нешта ў галаве барановым рогам.
Не ў блакіце тут справа – сьлёзы не цякуць із сухога вока.



# Парада

Вяртаесься сюды? Дык паглядзі
наўкол, паслухай, як з тваіх малебнаў
сьмяюцца дрэвы, праглыні падзіў
ракі, пастой чужой і непатрэбнай
на мосьце, недастрэчы падлічы
халодныя, падыхай недаверам,
аддай вадзе іржавыя ключы
ад раю і падумай пра вячэру.
Так лёгка піць прыроды непакой
і быць сабой, і быць нічыйнай казкай,
нічыйнай цьмаадводнаю рукой,
нічыйным сном, нічыйным абавязкам,
так лёгка вершаваць малебны зноў,
нягледзячы на кпін дрэвагалосься,
і знаць: усё, чым дыхае любоў,
з тваёй душой надзейна адбылося.

# Самота

Я ня ведаю, чым ты дыхаеш сёньня ўвечары –
акіянскім паветрам альбо цыгарэтным дымам.
Дагарае сонца на захадзе, абязьвечаным
лахманамі аблокаў і каўняром абдыму
чорнай зайздрасьці. Ты ня помніш, што падабала я,
што ў любым памяшканьні ўпарта шукала нішу
і штовесну зьбягала выспу вітаць абталую,
што кахала цябе, а чуў “я кахаю” іншы.
Не пабачыць мяне у храме, ды й з аднагодкамі,
дзякуй Богу, пакуль разьвітаюся ля мэтро я.
Хай маўчаньне тваё узыйдзе наўкол ясноткамі
пурпуровымі – спадарожніцамі настрою
тагачаснага, нагадае табе найпростае.
Не паверыш: я мела голас, імя ды цела,
і дагэтуль маю, ладжу супол з прабоствамі
ды жыву ля вады адна, як заўжды хацела.
Ціхавейны час што заўгодна аберне крышывам,
ды граніт-успамін стаяцьме яму напроці.
Што памерла ўва мне – у памяці нечай выжыла.
Нехта курыць там, на ўзьбярэжжы і на самоце.



## Выспальваньне

Гэта было выспальваньне ўсіх мастоў.
Я стаяла на высьпе, глядзела долу,
памнажала цябе на нуль, а затым – на сто
(у выніку – той жа разрыў суполу
назаўжды, без памежжа пасьля і да),
мерзла. Цякла вада.

Выспа маўчала. Моўчай брыняў мой час –
веляёмішча рэха ўсяго адразу
і нічога, нібыта белае без украс.
Адзіным пытаньнем на ўсе адказы
у сутоньні, што сьцішыла мой мяцеж,
сьпела: “Куды ідзеш?”

Толькі прысутны Бог знаў, куды іду.
На шляхох малатраўя і рэдкіх пустак
я пачула Яго настойлівую хаду,
згарнулася цемра ў любові згустак,
і паклікаў мяне незгарэлы мост
зь вечнасьці ў новы ўзрост.



# Бязьмежжа

Калі сьнег замятае рэйкі ды б’е пад дых
без дазволу прарослая ў нечай душы пяшчота,
колькі страшных прызнаньняў можна прамовіць услых
гучна й напаўгалос, з альбо без скаротаў?
Шэсьць хвілінаў шторанак поўню былым табой –
ці такі ты цяпер, ці твар не зьмяніўся дужа?
...так заглухлае сэрца жывіцца зноў гудзьбой,
так маўчаньню твайму туруе паўночная сьцюжа,
так хапае мысьлі, каб зьведаць першавыток,
так пускае ўверх карані адзіноты вежа,
так ты помніш мяне й багоў па той бок
бязьмежжа.



# Мы

Недалёка ад мора сьвечка гарыць; наўкол
поле, зарослае спрэс паўночнікам і гарычкай.
У цябе, як у Шывы, некалькі рук, ды ўпол
мае засаўкі ты ламаеш адной адмычкай.
У драўляным горадзе дыхаецца цішэй.
Без нагоды рыпяць струхнелыя аканіцы.
Над травой высокай палюе сава на мышэй.
На падлозе пасак із скуры, з ільну спадніца.
Пахне рыбай, ды водар грушавага пітва
запаўняе прастору, зорамі сыпле шчодра
ноч у жніўні, якой накрывае Літва
нас з табою, нібыта празрыстай коўдрай.



# Лета

Лета толькі таму, што казыча трава нагу.
Пад тынкоўдрамі ледзь варушачыся ў прыпары,
вар’яцеюць дамы. Я стаю ліхтаром на рагу.
Што пра заўтра казаць, калі горад няроўнатвары
невыносны кідае пад кожны крок напамін
пра цяпло тваіх – пропуск – калі быў побач.
Я гляджу на захад, на дня загін,
нецярпліва пільную, нібыта здобыч,
ноч, калі ўпадзе чарната
на знаёмыя невысохлыя – дзьве! – калюжы,
і яе не адбеліш, як сьлепату крата,
ні азёрнае чайкі крылом, ні пялёсткам ружы.



## Тленьне

Хаця і дарэмна, агнямі гарыць далячынь.
У полымя можна ім зрэць, але ў зьмірсьць найлепш.
І мора – амаль што сьмерць, бо ў яго на плячы
каса, што пад корань рэжа ўзьбярэжны верш.
Мы толькі жывем ня там, дзе любоў, а так
патрэбнае ўсё з кішэняў адразу ў рот.
Калі звар'яцець захоча які дзівак,
то напагатове сонца, ліхтар і кнот.
Чым меншы твой вогненны ўзнор, тым лепей, калі
ты проста жарбіт. Калі ж ты напраўду ён,
на высьпе сабраным пакульлем распалі
паходню ды пацалункам скасуй праклён.
Аднойчы сьвяцільня згасьне, і не ў вакне,
а там, дзе ўсяго Вымерца разьліўся ёй.
І ворахам дзікім тлее мысьль ува мне
пра тое, як сплыць у халодны сусьвет адной.



## Канец прыўкраснага часу

Бо вяртаньне у вечнасьць ад нас вымагае слоў,
я – адна з тых шукальніц, што плыні ўчынілі злоў
у сабе і цяпер не залежаць ад абалонкі, –
аддаюся пад вежай на высьпе сухому лаўжу,
як на новую свомасьць Пачатку, бясьсьлёзна гляджу
на чужыя старонкі.

Вецер гоніць ваду к таямніцам марской глыбіні.
У журботных краёх, колькі межаў сваіх ні пыні,
набярэжны ліхтар выкрывае абрыс бязладзьдзя.
Тут, адбіўшыся ад найпяшчотных у сьвеце рук,
ні дабожніка від, ні сьвятарны агублены гук
не здалею ўзгадаць я.

У журботных краёх на бяскрайнасьць разьлічваюць стол,
нерухомая бездараж, неба, трава абакол,
шэры квет палітона і твара судзейца,
ды ручныя сарокі ў звычайным бясстрэчным двары
назіраюць за тым, як бяскрай невідомай гары
і Табе дастаецца.

Да Цябе не дайсьці, не даплыць да свабодных рыб,
не ўзьляцець у блакіт, не спаўзьці пад зямлю ўперагіб
за счарнелым пячорнікам ўсьлед белавокай чудзі.
Ўсё няспынна старэ: гніе вясло,
хаты й дрэвы трухлеюць. Па-іншаму тут не было
і, напэўна, ня будзе.

Жыць у час, над якім пустатою крычыць скрыжаль,
вельмі цяжка. Зьліцьцём не здабыць, на вялікі жаль,
новадзіўнай прасторы (хіба што ў прасторы скрасьці
для зародка паветра, ня гледзячы ў вочы). Тут
(паўтараю) цела найлепш разумее хлуд,
а ня полымя страсьці.

Шар маленькі (Канада побач, і акіян,
і трынаццаць пярсьцёнкаў, якія нясе Уран)
даўнімае адсутнасьць страху перад прыродай,
перад думкай аб тым, што сьвятло забівае плоць.
На жыцьця вастрыі мне заўжды ёй стаяць супроць
ды лічыць невыгоды.

Я цяпер разумею, чаму надыходзіць моўч,
калі кожнае слова ў сабе прапусьціць праз ноч.
Той пранікліва сьвет, дзе аброк абудзіў малоха,
для апошніх радкоў мне настаўнік кладзе на далонь,
і мяне адпускае выспа. Слабее агонь,
і сыходзіць эпоха.



## Я пачынаю год

Я пачынаю год, агонь ня рве
сны, як ні пнецца, ссохлае ялінкі –
жарэ ігліцу, ствол і кволы цень.
Ірвецца ў неба вей у галаве,
сьцякае памяць выспавым суглінкам
на поўнач праз супор паўднёвых сьцен.
Я пачынаю год, а год – мяне.
Любоў расьце – шырэе, быццам мора,
глытае вершаваныя радкі
і кветкі на паэтавай труне,
і ўсе адценьні чалавекагора,
і рыбамоўчы кідкія шматкі,
і шматкілямэтровыя шляхі...
О Апалён, у скупнасьці трухі
трызубец не згубі, ахоўнік статкаў!
Буколікай азьзяе дно ракі,
і мне б пакінуць студзеню грахі,
ды люты кпіць з падобнага пачатку.



# выбар

прачынацца зь першым промнем сонца
перамножваць рэчыва і рэч
іменем зьвяртацца да зваёўцы
творцу й пераможцу йсьці настрэч
доўжыць асалоду адвалокай
часам насычацца і гавець
суцяшацца ў цемры суаброкам
ладзіць над душою падпавець
ісьцінай абточваць яваграні
сумаўчаць на мове хваляў
ці
набліжаць няроўныя дыханьні
на адлегласьць думкі аб зьліцьці



## вяртаньне

для каго найворагам жыцьцядар стаў
для таго найсябрам няўхільны скон
зброясьпевы бітвы пяці ваярстваў
абрывае зьвіты з маўчаньня сон
смалякі бязгучна трашчаць жывіцай
рассыпае страхі агонь у тло
ды зь цясьніны горнай здалёк цадзіцца
тагасьветам доранае сьвятло
узыйду туды дзе няіснай сьмерці
шэраздані белы глытае дым
жорнам лёсу памяць не перацерці
век-дажджу ня змыць успамін аб тым
як праз пругкі зьвіў валасоў з прасторай
праз супынам часу нацятую ціш
да вяршыні мклівай стралой празору
далятае

– сьпіш?



## пячора

паступова – па гукакроплях – сьцякае не
па часовым угнуцьці ў вечнае недаўчора
мне ізноў прывыкаць да зьвершанае мяне
зноў хавацца ў разломе ўнутранае пячоры
адплывае затворам мысьленьня лёдагор
азараецца сьцегавыглад – вястун сьлізготы
зьберагла б я сябе ды толькі сьвятла адмор
пачынаецца тут за першым жа паваротам
я трымаюся за накапкі хвілін дабра
ухіляюся ад нацёкаў былога страху
дзесь на поўдні нячутна плача сузор-гара
дзесь на поўначы кліча дом пад прарослым дахам
а навокал адно блакіць
белаглінь
вугляк
мне ня выйсьці наверх пакуль не знайсьці пакладу
найпразрыстых
сумленьнем выпаласканых так
каб пусьціць іх цячы у заўтра ручвом пажады



## воля

спыніць палёт кап’я з пашчэрбленым навершам
згасіць агніцы зор і не збаяцца цьмы
адолець новы шлях – адцінак ад бязьвешша –
дзе Бог правадыром прывабліва нямым
навобмацак знайсьці закінутую стайню
лятучага каня адвесьці за аброць
да ўзгорка за якім чакае стэп бяскрайні
ад суўзьнясеньня ў ноч адмовіцца шматкроць
вярнуцца да вады з самотаю усполе
зламаць кап’ё што дзесь шукае мужны збой
утаймавацца цьмой і намаганьнем волі
зноў зоры запаліць у небе над табой

## аер

аднойчы ты выйдзеш пад неба на цьмяным дасьвецьці
захочаш спакою набраць у вясны напавер
і знойдзеш дарогу сваю па адзінай адмеце
да старыцы мглістай дзе шоўкам шапоча аер
кранесься разгладжанай зелені ў мулкай трывозе
завостраным рубам парэжаш руку да крыві
пачуеш як трэскі – ахвяры былога разводзьдзя –
зь зямлі блаславяць тваю чырвань:
– жадай і жыві!
суніме твой боль найпяшчота аеравых хваляў
на кожнай травінцы падзеньні ды ўздымы паўскрай
растане цяпла майго сьлед у таемным прагале
ня выдасьць расьліна расталага як ні шукай
празь ліха сыход прарасьце надыход ціхалецьця
напярэдсьвітальная зорка пакліча дамоў
ты знойдзеш дарогу сваю па адзінай адмеце –
пакінутых мною найменьнях нячутных сьлядоў



# прабуда

у цёмны пакой праз шчыліну з заваконьня
бяссонны раён прасоўвае безьліч гукаў
бязладна маўчу бязрушна страчаю сёньня –
нябесны агонь дапальвае ўчоразлуку
і туліцца дым сівы да зямлі бязроснай
і цягнуцца ўвысь бязгнёздыя рукі дрэваў
і лёгкасьць быцьця становіцца невыноснай –
нябесны агонь дапальвае гронкі гневу
бясхмар'е ў душы вястуе знаход прасьвету
бяскрылы скразьняк бяскрыўдна халодзіць плечы
і час бесьсяменны яркне няісным кветам –
нябесны агонь мяне намаўляе зьбегчы
ён вабіць мяне апошняй грабністай хваляй
гляджу на яе зганяю зь сябе аблуду
адбыўся ўзыход
блакіт залівае далі
найчыстая зь іх чакае тваёй прабуды



## бясконцасьць

калі на згоне бітвы за наўкольны сьвет
што не лязом ды дзідай быў заваяваны
прамовіць слова найапошняе паэт
аціхне ўтома і загояцца ўсе раны
але загадкавым узорам на сукне
праступіць нешта не названае дагэтуль
так Бог зь бясконцасьцю паэта сутыкне
зь бяздоньнем мовы што сама і ёсьць паэтам



## прыйсьце

горад жыве і ня ведае слова “позна”
(ночы й пачатку зьнітоўваць пераліў)
новым заходам забарваюцца барозны
хмараў і лётных шляхоў раўналежных наўзьдзіў
прыйсьця вястункай на небе мігціць заранка
(срэбру сукроп’яў множыцца да відна)
карыятыдай паддашша твайго прыстанку
моўкна нясу і бачу цябе з акна



## сьнітка

дрыжыць у паветры сьцег павуковай ніткай
зьвініць бы струна
тонкай сі расьцярушвае ціш
ідзеш да вады па калена ў суквецьцях сьніткі
сукрочыш мінуламу
будучыні сукрычыш
твой крык патанае ў сукроўі нябеснага болю
той тон гукаквету да Бога ляціць нацянькі
мігціць у міждрэўі раскацістым рэ(ха)-бемолем
вірлівы спакой да вар'яцтва знаёмай ракі
ляжыць над паземам сонца бы вішня ў скудзелі
у воблаку кожным вымройваецца карабель
ідзеш да вады цераз моўкную бель пустазельля
убачыць як час паўнаводзьдзем кранае камель



# вершніку

не сумуем
ня плачам з табой над чарговай згубай
сум і сьлёзы даўно патанулі ў нісанскім змроку
ледзь варушацца ў дзікай натузе сухія губы
у найважнае вочы зь бязладу глядзяць няўрокам
помні:
сьмерці няма
бакуроты салодкія ўвесну
баязьлівасьць адна з найзаганаў што ў пекла зводзіць
мы з табой не баімся нічога таму ўваскрэсьнем
хочаш – заўтра
а хочаш – праз мноства тысячагодзьдзяў
ні маланак
ні хуткай язды
ні цяжкога болю
ні ткачоў-павукоў
ні сустрэчаў з былым і новым
не баюся й нясу праз найчыстыя воды волю
ды праз час каламутны працэджваю срэбра мовы
нам ісьці пад дажджом
нам ісьці пад сьляпучым сонцам
быць адно аднаму мнагагранькам найпразрыстым
і штосьцег
і штокрок
і штохвіль
адкрываць бясконцасьць
у цудоўных нямых таямніцах зямное істы



# Каменная Горка

Зноў дыхае сьвет, бо нешта ў ім ажыло,
і сонца гарыць, ня бачанае дагэтуль.
Нязломная сіла, злоўленая ў сіло
бяскоскавым чужаслоўем ды чорным кветам,
ірвецца ўгару. “Цягнік далей не ідзе”, –
даносіцца з-пад зямлі чысты голас чыйсьці.
Груваскі прыкрай па шчыкалаткі ў бядзе,
ў густой лебядзе па лыткі, па сходы выйсьця
у камені. Смутак тоіцца ў кальчаках
расьліны за шклом злавесна-зялёнай вежы.
Ратуе ад гулу гучнае *om namah*
*śivāya*, ад шэрага тла ўвачч у – мярэжа.
Тут крокі твае штохвіль набліжаюць рай,
цябе за свайго прымае велепакутнік.
І як ты сваю дарогу ні выбірай,
ступае нага на проста- й складанакутнік.



## Вэнэцыя

і вось ты ў Вэнэцыі
надгаладзь праз галечу
шчасьлівы адсутнасьцю шчасьця ідзеш па сьледзе
ў паветры дзе болей атлянтаў чым чалавечых
узрушаных рук што зварот давяраюць медзі
пакінутай імі на волю дна й каламуці
табе на павекі кладуцца яго часьціцы
услоны яго чакаюць і памяць труцяць
табой
бо табой немагчыма не наталіцца
як твой папярэднік слухаў птушыны строкат
ты слухаеш бруку й абутку глухое трэньне
на ўсходзе ўспаміны продкаў ляжаць упокат
на захадзе сьпяць няходжаныя ступені
і колькі б ты ні глядзеў на адбіткі зораў
ні зьведваў усе таямніцы вялікіх водаў
як мрою зь сябе выціскае цябе прастора
Вэнэцыі і чужое душы
назаўсёды



# Вільня

Крыжатрымальніца б’е па-над плошчаю
крэсівам духу па крэмені вехаў.
Чую ў завулках з касьцёламі зрошчаных
крокаў уласных расталае рэха,
дыхаю
ўтульным
каменным горадам,
кменнаю каваю, крэсьлю адмены
думак пра венскае крэсла ля мора ды
пра пераход празь мяжу айкумэны.
Сьлед спалавелае ўтомы плавіцца
ў сонечным горне, у гораплавільні.
Лета, свабода, крыжатрымальніца.
Раніца.
Вільня.



# таемства

узыходзячы на адну зь века(м)вітых гор
бачу кола зьвязды аслоненай напалову
сьціплым воблакам
зьзяньне зрокам заву ў зазор
ахвяруючы адначасна дыханьне й мову
углядаюся ў серад працятая ім наскрозь
аддаляюся ад агню ў цішыню начную
на праветраным шары што мае спадзеў на вось
і на вечнасьць таго таемства што я справую
супраць руху зямлі заўзяты ды сьмелы птах
пазалочаны водсьвет марна дагнаць ірвецца
я стаю на гары ключом у Тваіх руках
судзяніцай таму ў каго адамкнёна сэрца



## кветкі падвежжа

уладарства травы ды россып дзікарослага дзіўнацьвету
прыцягальны холад каменьня і ўласнай рукі цяплынь
сівазём векавога падвежжа разумее ўсе мовы сьвету
ідучы да вяршыні пачуеш бы загад на сваёй:
застынь
скаланесься ды паслухмяна зьнерухомееш і заўважыш
як пялёсткавымі штрыхамі лёс малюе высокавей
летапісцы і летапіўцы на спрадвечным падвежжы княжым
зноў кладуцца на зрок узорам залачоных зарой надзей



## узыход

як упалае у ваду бараніць абводамі
як утопленае схаваць – таямніца рэк
ускрываюць зямлю карані ды кладуцца ўсходамі
пад хаду дасьвятынчую стоме наперасек
я знарок абмінаю шнары праз пыл прарослыя
узыходзячы на акрыжаную гару
а далёка ўнізе рыпяць ясянёвыя вёслы і
спавядаецца плынь нябачнаму правадыру



## небарасьць

нашы цені плывуць да Віліі на туга зьвітым дубовым згоне
паўмінулае расьцярушваецца паўцяперашнім па вадзе
паслухмяныя пасмы водарасьцей тояць небарасьці прадоньне
той у хвалях урэкавечваецца хто пісаў зь ніадкуль...
нідзе
я дагэтуль не адлюстроўвалася так прыгожа і так спакойна
да адхону ўспамін прывязваецца праз атрутны баліголоў
як на роўнядзь тваю далоневую пад ухвальны сьпеў дрэвастойны
я кладуся бясконцай небарасьцю без націны ды каранёў



## дуж

няўцямная туга і болезьневажаньне
скарэлай белізной на мох кладуцца тут
ты – сон спачылых душ
зь міжчасься прыхаджанін –
на высьпе небыцьця ўсім целам творыш цуд
падаўца прамянёў
празорца найпякучы
ўваходзіць у цябе праз скуру без брані
і чуе кемны цень магільнае бязгучча
ў якое дуж крыжоў пускае карані



## рунь

завінуцца у Вільню
да вільгаці ветлай выйсьці
паланіўшы ў завулках вясёлы вульлёвы гуд
і пракрустава ложа за накустоўным лісьцем
абмінуць без прымеркі прымерклы адчуўшы спуд
і ступіць на пясок што ня ведае сну і псоты
пад сьвятую зямлю цені цемры пагнаць наўгрунь
утварыць словавір
зразумець за імгненьне хто Ты
і чаму на вадзе узыйшла залатая рунь



## вераценьніца

пад каменем слова прытоена
на камені сьпіць вераценьніца
бяздоннае мовы завоіна
ня ссохне ўва мне
не заглеіцца
пытае пралётнае воблака
“ці хочаш зрабіцца відушчаю?”
адказ растае ў водамораку
у люстры над раскавай гушчаю
сон яшчаркі сонечны макавы
адбельваецца завірухамі
і нехта сьмяротны бяз ракавін
шум мора і вечнасьці слухае
праплыўныя трэскі бы золата
у рукі бясстрэмкава просяцца
і вабіць прахожага волата
наствольная словапалосіца
дарога да камня амшэлага
чарнее глыбокай калюжынай
у сплаве з завоінай шэраю
дужэе рака недалужная



## бязьверб’е

зьмярцьвелым спакоем страчае рака віравая
ўплятаецца неруч у прожылкі сумнага дня
і зморшчыны болю пад мох баязьліва хавае
суседні камель
зарачыста маўчыць травяня

забытае дрэва
якому ня бачыць адлігі
ня чуць крыгалому
маланкаў ня сьніць перасек
схіляе гальлё ў тайніку чорна-белае кнігі
на шэрых выявах і ў памяці трох чалавек

на высьпе дагэтуль ніколі ня менела меньня
па сьмерці ж зьнікае цьвілы неабходжаны брод
над берагам голым згушчаюцца нашы адцені
надмосьцем прамым высьцілаецца наш разыход

заклятае мейсца завітае ў ад(на)галосьсе
шукальніцу сьледу належнаю сілай надзель
па сушы і пасушы выхадзіць новую восень
і ўсмак наталіцца настоем бязьвербных нядзель



## Каляды

каля дыханьня з водгульлем утомы
як мятлікі ля сьвечак-зрэнак дома
з ахвяравітым вокнавокім тварам
у горадзе каналаў і каханьня
віліся словы – цені адкідалі
на кожны рух да новае відалі
і прарастала траўе на выжары
і нараджаўся Ён каля дыханьня



## сурэчча

вечар ізноў словацечны
шкло саграваеш скроньню
з вокнаў глядзяцца ў неба стомленыя крыжы
сьніцца старому гілю рабінавае шматгроньне
шэры шалёна зайздросьціць сотням адценьняў іржы
сонны абрыс сьветланошы й тоіснасьць гарадоў і
гор не даюць неспакою корань пусьціць у ноч
тропы губляю й знаходжу ў цёмным густым заслоўі
п’ю найглыбіні сурэчча колькі нас ні суроч



## вязьмо звычаю

так перамога перад зьвершніцай распроствае
трохбрам’е горада над’яўленага ў холадзе –
у першасьне дзе паказаўшы мне найпростае
Ты апрасьніў раствор счарнелай словасоладзі

так сьлед губляе той хто боль зь любоўю блытае
на гора-жэглішчы гарыць магой стуманены
на тым парозе за якім з дарогай зьвітую
мяне задумаў Ты спатольніцай чужаніна

так новатраўе сьніць іскрозь з гальлём звалочаным
як ва ўспаміне зь нечай памяці пазычаным
ракі-настольніцы назваўшы ўсе уточыны
мяне Ты вывязаў зь вязьма чужога звычаю



## бясьсьледзьдзе

глядзецьму ўсьлед маёй нявызнанай аддусе
няхай зямля гарыць – зьбірайся і сыходзь
які б агонь мяне баяцца ні прымусіў
сябе самоты не пазбаўлю самахоць
змаўчыць званіца
брама засаўкай ня грымне
вада затоіцца у жылах жалабоў
і выбух выдыхам запомніцца нястрымным
зарослым котлішчам абернецца любоў
губам засьмяглым не дазволю зваць і ледзьве
трывацьму выспы неабходжанай папрок
глядзецьму ўсьлед табе – насьледніку бясьсьледзьдзя –
не скарачаючы адлегласьць ні на крок



## запавет

маўчаньне залевы сьцякае пад мох
у шчоглавых шчыльнагаловых лясох
у росі між могілкавых камянёў
разьняцьце яго з вадой
як сьцегаразьняцьце для зьвітых у зьвяз
ў якім немагчыма маўчаць напаказ
час зваў у бясчасьсе
і зьвіў
і разьвёў
нашчадкаў гары сьвятой
на ўзноўленых мовах узнорнай зямлі
малітвы надрэчныя шэпчуць камлі
паўвока глядзяцца з прызем'я ў бяскрай
жывіцай ліюць аброк
стаю на разьвілку разьвітая зь ім
і сівер на крылах паўтысячы зім
нясе запавет у завецьце
"трывай"
што ўдзячна прымае зрок



# зора

выбух адбыўся ў велеглыбінях зоры
лінуў у зьвіліны боль бы вада ў разоры
кіне агонь шалець – голаў прыме небаль
носьбіт зьняболеных думак аддзячыць небу
ранак страчаю ў новай вершаваронцы
час і прастора ўмагчымваюць сувязь з сонцам
памяць пра жар беражэ абалонка цела
р*а*дзее дух малітваю адляцелай
дзесь у занеб’і шматзорным мільёны ўспышак
сточна сьцінаюць пустэчу каб болю зьлішак
гэткім як мы пакутнікам зоразьвязу
зьнесьці зь нябёсаў
дарам
дабром
адказам



## нязмора

апрат у празрыстай крыніцы
рух ценем па ніжняй прыступцы
адрок ад гаротнага долу
жарба невымернасьцю ў год
у срэбным сьвятле зіхавіцы за верамяжы пазаступцам
ня зорачы болей наўкола я доўгі ўсчыняю ўзыход
ня помнячы прысмаку труці
танчэючы ў зорнай пяшчоце
губляючы ўстоі прасторы
імкнуся углыб-угару
і полымем поўняцца грудзі
і роўнае беспавароцьце
нясе мяне дарам нязморы ледзь бачнаму суўладару



## туман

а ты ўсё ідзеш і вядзеш мяне скрозь туман
туды дзе ізь вершаў забытых расьце люцэрна
туды дзе трыпутнік чакае найтонкіх ран
дзе ў белі бясконечнай робіцца цень надмерным
наперадзе рвуцца няўлоўныя ганчакі
у дзікія ўцёкі і ў ціхае паляваньне
я ўзьвершваю дотык стуманенае рукі
і чую наверша вечнасьці ў затуманьні



## мысьль і кроў

сьцеле дзень ледзяныя просьціны
завінаецца цела ў стынь
я іду выспазванай госьцяю
выспазнаная да глыбінь
хмарадовішча неспакойнае
тонкім клёнам прарочыць згіб
зоры зьмешваюцца у вымоіне
з маціцовай луской рыб
пад ракою сьпіць вадаперыца
па-над берагам мерзьне плець
небасхілу даўно ня верыцца
што ён здольны пабранзавець
сны сьцяклі у пясок да лета і
голас птаха ўгары заглух
толькі боскім агнём сагрэтыя
мысьль і кроў не спыняюць рух



## вада і агонь

ня грэбуе хвалягрэбень краем які балонь
штодождж рацэ падстаўляе прагна пад кожны ўсплёск
акраса жыцьця табою не выкрасае агонь
із кроплі згаслае сьвечкі не ўваскрасае воск
паводзіны – рух па вадзе і ад продкаў прамая ніць
паходня – для вока цэль і спрат першабытных мар
ізноў мяне вабіць межань на донную здань ступіць
ад мёртвага дрэва грэцца кліча золатажар
той зоў надвугольля чуе й кідае пасьбу пастух
ізь зему адкрыўшы ў неба у загарадзі пералаз
у столках празрыстай гладзі боскі адбіўся дух
у стылай цякучай здолі мова зьнее для нас



## прасамота

не віхрыўся пыл першазоры
не ўсклікалі жывыя істоты
і ня мела вытоку ў моры
недасяжная глыб прасамоты
у сусьвеце бяз зроку й слыху
толькі плён быў пазьвязваны з плодам
нехта той прасамотай дыхаў
выдыхаючы ўверх асалоду



## словажаць

ізноў апустошаны ўсе куты
ўявы не ўразуметы
за роўніцай ночнае чарнаты
шыўная шыр сусьвету
употай змацоўвае нечы шнар
(сэрца слабае ў Бога)
і вырасьце стог там дзе ёсьць стажар
мова ўісьніць дарогу
я моўкна ступаю на словажаць
каб надала мне сілы
сустрэча збытая там дзе ня сьпяць
Тым каго не прасіла



## уцёкі

не прыняўшы як дар пераемнасьць раеньня ў вульлі
пад аховаю думаў пра волю і мову рэчаў
уцякаю на ўсход ад тваёй жыцьцяноснай кулі
у сухмень па суглінку і супескам у макрэчу
ад тваіх віратворных стрэлаў хаваю сьпіну
духу логу за схоў адплачваю злом і злогай
адпалоскваю пасак блікамі лукавіны
зноў шукаю дарогу выклятая дарогай
я даўно не бяглячка – сястра вятрам адзінокім
хоць за мною няма пагоні – ня маю сілы
азірнуцца і стаць
я празь яву чыню уцёкі
на Радзіму што ймёны для нас з табой парадзіла



## дом

далёка
ў паўночным паўзмрочным сьвеце
чакае мой дом над пустым бязмосьцем
ў куце – з прахалоднай вадой аплецень
супроць – найпяшчотны яловы подсьціл
нічога для будучыні ня трэба
мінулае болю ня мае болей
цяперашнім стылым брыняе неба
ўсхваляецца дно нараджэньнем золі
ад позірку яркне заліў бясьветны
ад дотыку гучна рыпяць драбіны
і вецер што сьцегам вёў запаветным
ня хоча расстаньня і дзьме у сьпіну
прадбачлівы й ўмелы мой папярэднік
для ловаў жывога сплёў падвалоку
парушу спачын у нябеснай седні
над домам павешу яе высока
каб зьнічка адзінай жаданай госьцяй
сюды завітала у моўкналецьце
чакай мяне
дом над пустым бязмосьцем
далёка
ў паўночным паўзмрочным сьвеце



## чаканьне

зямлю ўбірае ноч адценьнямі узвору
над рукавамі рэк плыве аброчны дым
і мысьль імкне праз час скараючы прастору
і боскае сьвятло здаецца нутраным
бязгучнае імя расчутае у тлуме
становіцца ключом галоўнаму замку
на жэрліцы цяпла з жаданьнем б’ецца здум’е
як рыба на стальным завостраным круку
прастылыя сьляды і цень вершапраходца
загадваюць на міг стрымаць няроўны дых
і зерне слоў маіх што мае дамалоцца
чакае вечны рух у жорнах залатых



## уток

чую як дыхае той хто спазнаў мяне
помню як дзіўны горад страх праглынуў
чырваньню вышывала я кут па льне
клалася беласьледам на ўток ільну
там – вадаспад асалоды заўсёды там
тут – забыцьця прадзьзяньне няўмольна тут
сьцегам тваім – напрамак
і вей сьцягам
кожны шывок і кожны чырвоны кут
жоравугольля ў небе глыбокі квет
тонкай струны напятасьць ды кліч званоў
існасьці сну даказваюць іншасьвет
яву ільнуючы
зьявіўшы лён наноў
помню як ты і я не знайшлі дарог –
соцень дарог што сьцяліся у адну
чую як нехта забалаць перамог
моўкна кладу насьледзьдзе на ўток ільну



## зорны жах

я
шчасьце пусьціўшы ў жылы глядзела ў ноч адкрыцьця
зьмяўшы траву-прасьціну ля каменя-узгалоўя
Бог аглушальнай моўчай паветра наўкол працяў
зоры мяне сагрэлі цяплыньню зямных вандроўяў
сьніла каханьне сьнітка і пах жыцьцём лісахвост
ткалася у занеб'і маіх перамог зарука
кожны зазор міжзорны нагадваў замлечны мост
што прывядзе да чыну
да мысьлі ў палоне гуку
носьбіткай прыгажосьці
нязнаўцаю нематы
перад Яго парогам душа трапятала птахам
вышаптала: "Ты – мова?"
Ён выбухнуў: "Мова – ты!"
першазварот зьвяршыўся зорным бясконцым жахам



## імглебен

імглебен дажджу я пачую самотнай зімой
сем кропель зьбяру каб на вогнішча жарсьці ўзьліць
мастак намалюе словам адчайны спакой
адценьнем ляўконіі лужынаў плямы зашкліць
і вогнішча згасьне
і жэглішча зноў зарасьце
скуе патаемны адцінак пякельніцы моч
заціхне імглебен між намі
і будзе як цень
адчайна спакойнае слова мне сьніцца штоноч



## пасьвячэньне

калі я дыхаю ці размаўляю
заўжды ў мінулае хачу вярнуцца
ў глыбокае мінулае – на ўскраі
зь якога прагнуць змыслы разгарнуцца
і я хачу штораз будзіць прыроду
і будаваць жытло для разбурэньня
адбіткам быць неперасохлым водам
рассыпаць гук па гладзі найглухмені
хачу ў агні сядлаць імклівых коней
хачу “складана” вызваліць із “проста”
прыняць сьвятое семя ва улоньне
і нарадзіць Прарока ад Прабоства
глядзець як рай зьнікае над паземам
як Сын наноў наўкольле называе
заўжды крычу у будучыню нема
калі я дыхаю ці размаўляю



## пярэвітка

вітаю медзь што залівае ўсход
ўнутры званчэе дзіва супадзеньня
кароткі верш – бясконца доўгі плот
ад слоў-жардзінаў – роўнядзь змыслаценяў
аблашчаныя сьцятыя слупкі
прыцьмелым траўем некалі бліскотным
і нечы рух уздоўж нетарапкі
змушае птахаў пець ня так самотна
завяз у пруцьці сіверу павеў
ды плоць яго мярэжную казыча
каб і ўва мне надалей не слабеў
пярэвіткай насьледаваны звычай
так лёгка мову гэтаму вязьму
ператвараць у плот пазадарожжа
ён паўстае дзе хочацца таму
каму ня знаць ніколі агароджаў



## зоў

штослова й штокрок падарожжа заве за Ім
я – водбліск тугі што натхняе ўзяць сьвет на змор
адолець адзінае лета і сотні зім
і холад п'ючы углядацца ў празрысты дор
я – водгалас Бога
сапраўдны паэтаў створ
бо круцяцца жорны
бо рушы трымаюць млён
і змыслам брыняе суладзьдзе бы зернем ўзвор
штокрок і штослова бліжэе мой Авалён



## лябірынт

чыніла сьцюжа дзіўны перакрой
найледавітай коўдры над ракою
і покаўкі драмалі пад карой
зялёным сном зімовага спакою
прамень самотны блытаўся ў гальлі
бясслоўна славіў пастку дуб сагрэты
наш супадзеў тут-сьветны сьцераглі
чатыры цьвержы із другога сьвету
мільёны неазораных арбіт
няскрыжавана весьцілі нязгоду
а я ў руках трымала лябірынт
што ціха зваў праваламі уваходу
я дыхала й чытала
стыла ціш
і ты паўстаў як створ уласнай мовы
паўзьверх вады ды гораду паўзвыш
надчасьсем і прасторай бесканцовай
я прыняла той неацэнны дар –
імгненьне мочы ў вечнасьці стамлёнай
на губы ліўся зь неба рдзяны ўзвар
чатыры цьвержы вабілі палонам
надаўца змыслу
знаўца ўсіх пакут
і насалод усіх маўклівы носьбіт
сышоў на ўсход і цень схаваў за груд –
за выспу у нявыказанай просьбе

мне холад нёс нязвыклы неспакой
прадбачыла зямля сваё бязвосьсе
чыясьці сьмерць драмала пад карой
прамень самотны блытаўся у лёсе
я ж лябірынту чорнаму назоў
давала ў той далёкай зімнай хвілі
бо колькі ў ім пачутых галасоў
мы зразумелі і адушавілі!



## першаму паэту

басанож па колкіх імхах
галаруч за імклівым зьверам
ты адольваеш час штошлях
я агольваю стан даверу
каб мой зрок ня меў перашкод
каб ступіла за тую грань я
на якой ты намеціў абвод
цудам першага параўнаньня



## руйнаваньне

рухам чыстай вады кіруе сьвятарны створ
сьлед даверлівых дотыкаў ценем ляжыць на целе
і хароміна сонца палоніць сьвет харастовом
над аранжавым небам – месьцівам аднацэлі
перад дарам спакою які абяцае гладзь
перад чынам адзінства Таго і Свайго агменю
я руйную за міг што мкнулася будаваць
і ліецца аброк у нязьменнасьць усіх зьмяненьняў



## вусьце

ты няўрокам праходзіў тут у пошуках белай ніці
што багі пакідаюць шукальцам збытку загорнай змогі
ніць таілася пад націньнем
пад волкай душой акрыцьця
за мятлічнаю паласою моўнай маёй аблогі
ты сыходзіў адчуўшы парог
бязьніцьце вяло далёка
ты ня чуў як стагнала зямля ў асалодзе няспынных гнётаў
і як цягнучыся да нябёсаў пад увагу чыйгосьці зроку
таямніча ашэптвалі ноч галасы залатога ўмалоту
ты вярнуўся сюды па сьлед безугасным бясьсьледзьдзем зморан
сьлед пад крокі слаў блаславеньні у глухім сухалеглым хрусьце
ты ня зраніў маўчаньне словам і ня выкляў спусьцелы сьцёран
разарваўшы з полем супол я па ніці плыла да вусьця

ꕤ

## слова-вясьняр

на заклік даўно не адказвае рэха
куецца хада маразамі ў паразу
ды зернем брыняюць калосьсі адказаў
і волацьцю ўпарта кладуцца на стрэхі
пустых церамоў за штыкетнікам часу
над прызбамі зьніклых прасторавых селішч
ізноў уздымаецца боская веліч
у знойдзеным слове – у вершаакрасе
ірвецца на волю з таемнае клеці
праз ворыва мовы прарослае штосьці
вясьляр аддаляецца прэч у замосьце
вясьняр набліжае пяшчоту прадлецьця



## волат ля вады

там рупна халодзіць ды волат ня стыне
мярэжа шляхоў саграве рукі
прашу ў ліхтара – агнішчаніна плыні –
сьляпога сьвятла на адхон разлукі
нямога цяпла на матыў ветраслоўя
на вопрадзень рваны надзейнай латкі
і волата – сонцу
і волата – поўні
і волата – мне й каляводным згадкам
там шэпчуць трывожна палонныя здані
што волат віжуе
ды я ня віджу
і зь небам чакае душа змацаваньня
прамоўным цяжом і драўляным крыжам



## галасы

галасы
галасы
каб ня чула я вас
не ўзялася б за церніцу словатварэньня
не чакала б скароджанай глебай украс –
ні ад зоры сьвятла
ні аратага ценю
не паўстала б за ростаньню соцень дарог
безвыходнасьць умовай адзінаму выйсьцю
на балотнішча вышыты верш бы ня лёг
непаўторным узорам павораным кімсьці
галасы
я сыходжу ў замоўны гусьцеж
успамінавым стрэлам сьпявайце мне ў сьпіну
мой апошні вітаны дабожнікам верш
пакладзеце на музыку шэпту расьлінаў

# ВЕРШЫ

## выспа

7 выспаведзь
8 выспадарожжа
9 выспаходня
10 выспакой
11 выспаверх
12 выспакушэньне
13 выспазьненьне
14 выспамінальнае
15 выспатканьне
16 выспаролі
17 выспавалока
18 выспаслушніца

## пярэспа

21 напаўненьне
22 супрацьстаяньне
23 узводзіны
24 сустрэча
25 супын
26 шматкроп'е
27 народзіны
28 паветраварот
29 адкрыцьцё
30 гуканьне

## звычай

33 Эргасум
34 Утома
35 Парада

36 Самота
37 Выспальваньне
38 Бязьмежжа
39 Мы
40 Лета
41 Тленьне
42 Канец прыўкраснага часу
44 Я пачынаю год

## галасы

47 выбар
48 вяртаньне
49 пячора
50 воля
51 аер
52 прабуда
53 бясконцасьць
54 прыйсьце
55 сьнітка
56 вершніку
57 Каменная Горка
58 Вэнэцыя
59 Вільня
60 таемства
61 кветкі падвежжа
62 узыход
63 небарасьць
64 дуж
65 рунь
66 вераценьніца
67 бязьверб'е
68 Каляды

69 сурэчча
70 вязьмо звычаю
71 бясьсьледзьдзе
72 запавет
73 зора
74 нязмора
75 туман
76 мысьль і кроў
77 вада і агонь
78 прасамота
79 словажаць
80 уцёкі
81 дом
82 чаканьне
83 уток
84 зорны жах
85 імглебен
86 пасьвячэньне
87 пярэвітка
88 зоў
89 лябірынт
91 першаму паэту
92 руйнаваньне
93 вусьце
94 слова-вясьняр
95 волат ля вады
96 галасы

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Сіўчанка** Галіна Паўлаўна

# Зоў Звычаю

*Вершы*

Вёрстка *Ігар Кулікоў*
Дызайн *Ганна Грынкевіч*
Аўтар здымка *Ілля Сіз*
Карэктар *Наталка Харытанюк*

Падпісана да друку 18.05.2018. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,8. Улік.-выд. арк. 2,5.
Наклад 200 ас. Замова 7683.




Выдавец і паліграфічнае выкананне:
таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/142 ад 09.01.2014.
№ 2/34 ад 23.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.